Народная Воля http://www.nv-online.info 22 ВЕРАСНЯ 2020 г.

ЖАНЧЫНЫ З ЛЕГЕНДЫ

Анатоль БУТЭВІЧ

# І ПРАВАСЛАЎЯ НЕ ВЫРАКЛАСЯ

*(Працяг. Пачатак у №№63,65,67,69–74.)*

Шлюбы прадстаўнікоў Масковіі і Вялікага Княства Літоўскага былі частымі. І гэтак жа часта яны насілі палітычны характар. Дамоўныя бакі, а не самі шлюбавальнікі, ахвотней глядзелі на палітычную выгаду, а не на пачуцці.

Канец XV стагоддзя пазначаны асаблівым напружаннем ва ўзаемаадносінах Вялікага княства Маскоўскага і ВКЛ. Уладныя структуры Масквы настойліва скіроўвалі свае намаганні на нейтралізацыю ваенных канфліктаў. У гэтай справе віталіся любыя дзеянні, здольныя прынесці выгаду. Адным з такіх крокаў бачылася шлюбаванне дачкі вялікага князя маскоўскага і ўсяе Русі Івана III Васільевіча (таго самага, сын якога Васіль быў жанаты з Аленай Глінскай) Алены з вялікім князем літоўскім Аляксандрам Ягелончыкам.

Трэцяя дачка Івана Вялікага і Соф'і Палеалог Алена нарадзілася 19 мая 1476 года. На той час чацвёртаму сыну Казіміра IV Ягелончыка, унуку караля польскага і найвышэйшага князя літоўскага Ягайлы Аляксандру ўжо было пятнаццаць гадоў. У 1492 годзе паны-рада ВКЛ выбралі Аляксандра вялікім князем літоўскім, а каралём польскім стаў брат Аляксандра Ян Ольбрахт. Ушанаванне гаспадара Княства Аляксандра адбылося ў Віленскім касцёле святога Станіслава. Літоўскі маршалак Ян Літавар Храптовіч уручыў яму меч, скіпетр, жэзл і наказаў, каб вялікі князь не італьянскім звычаем альбо чэшскім ці нямецкім паслугоўваўся, а *"праўдзівым літоўскім і Вітаўтавым прыкладам нас гаспадарыў і судзіў"*. Гэта значыць, каб на першае месца ставіліся свае норавы і парадкі, свае інтарэсы, а не нейкія чужыя, прывезеныя з-за мяжы.

Зыходзячы з гэтага пажадання, 6 жніўня 1492 года Аляксандр выдаў заканадаўчы акт аб дзяржаўным кіраванні. Назвалі яго Аляксандравым прывілеем. Меў ён вялікае значэнне для ўладкавання дзяржавы. Гэта была, па сутнасці, феадальная канстытуцыя Вялікага Княства Літоўскага (Статут ВКЛ яшчэ не дзейнічаў). Згодна з прывілеем, усе важнейшыя справы павінны былі вырашацца вялікім князем сумесна з панамі-радай – вышэйшым кіруючым органам Княства, чаго раней не было. Толькі народжаныя ў Княстве маглі цяпер набываць зямлю і атрымліваць дзяржаўныя пасады. Суверэннасць Княства падкрэслівалася непарушнасцю яго межаў і самастойным вядзеннем дыпламатычных стасункаў з суседзямі.

У тым жа 1492 годзе пачалася першая вайна Вялікага княства Маскоўскага на чале з Іванам III, які заключыў саюз з крымскім ханам Менглі-Гірэем, з Вялікім Княствам Літоўскім. Адбываўся захоп вялікалітоўскіх гарадоў. У адказ Аляксандр накіраваў у Смаленск князя Івана Львовіча Глінскага, каб той пераканаў смалян заставацца вернымі ВКЛ.

5 лютага 1494 года адбыліся перамовы Івана III з вялікім князем літоўскім Аляксандрам. У выніку былі заключаны "адвечны мір". Аднак дамоўныя бакі толькі гэтым не абмежаваліся. У поле іхніх інтарэсаў трапіў шлюб вялікага князя літоўскага Аляксандра з дачкой маскоўскага князя Івана III Аленай. Як сведчаць польскія даследчыкі, перамовы на гэты конт былі доўгімі і складанымі. Урэшце пагадзіліся. Шлюбаванне палічылі найбольшай гарантыяй мірнага развіцця ўзаемаадносін паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскім княствам. Праўда, надзеі не апраўдаліся цалкам, ваенныя канфлікты ўзнікалі і пасля гэтага.



Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

А пакуль што ў Вільні рыхтаваліся да пышнага шлюбу. Адбыўся ён 15 лютага 1495 года. Вялікаму князю літоўскаму Аляксандру было 34 гады, а дачцэ Івана III, *"божьей милостью государя всея Руси и великого князя владимирского, и московского, и новгородского, и псковского, и тверского, и югорского, и болгарского, и иных"*, Алене – васямнаццаць.

У студзені князёўна ў суправаджэнні вялікай світы выехала з Масквы ў Вільню. Ёй спадарожнічаў велізарны аршак з пасагам. Па дарозе яе пышна, з гарматнымі залпамі віталі ў Смаленску, Віцебску, Полацку, іншых гарадах. У мястэчку Маркаў каля Маладзечна Алену сустрэлі 60 давераных асоб вялікага князя літоўскага на чале з Канстанцінам Астрожскім, Станіславам Кішкай і Васілём Глінскім, бацькам Алены Глінскай – будучай жонкі маскоўскага князя Васіля III. Хоць Алена Іванаўна стала жыла ў Вільні, з родным домам праз усё жыццё падтрымлівала цесныя сувязі, вяла актыўную перапіску.

Адной з умоў шлюбавання было захаванне Аленай праваслаўнага веравызнання. На гэтай аснове ўзнікалі розныя непаразуменні і нават спекуляцыі. Так, у 1499 годзе адбыўся паход рускага войска на Вялікае Княства Літоўскае, прычынай якога палічылі патрэбу абараніць права Алены Іванаўны вызнаваць праваслаўе. Руская княгіня аказалася разумнай і тактоўнай жонкай і прыхільніцай мужа ў добрых справах. Часам яна настойліва праяўляла сваю самастойнасць, перадавала цэрквам і манастырам значныя багацці. Аляксандр не замінаў ёй у гэтых справах. Дарэчы, менавіта вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык 14 сакавіка 1499 года надзяліў Менск Магдэбургскім правам.

У 1500–1503 гадах вялася другая руска-вялікалітоўская вайна. Падставай для яе паслужыў пераход у падпарадкаванне да маскоўскага князя Івана III, які ўсё сваё жыццё прысвяціў збіранню зямель, некаторых вялікалітоўскіх князёў. Прычынай гэтага палічылі прыцясненне праваслаўных вернікаў у Княстве. Войскі Івана III далучылі да Рускай дзяржавы Бранск, Курск, Ноўгарад-Северскі, Чарнігаў. І толькі ў сакавіку 1503 года вялікаму князю літоўскаму і ўжо каралю польскаму Аляксандру ўдалося заключыць з Іванам Васільевічам перамір'е на 6 гадоў. ВКЛ мусіла саступіць Маскве 29 гарадоў і 70 воласцяў. Да гэтага перамір'я спрычынілася жонка Аляксандра Ягелончыка Алена Іванаўна. Яна напісала чатыры лісты да бацькі, маці, братоў Васіля і Юрыя з просьбай спыніць узброеную барацьбу. Аднак памежныя канфлікты не патухалі і пасля гэтага.

Калі ў 1501 годзе памёр брат Аляксандра кароль польскі Ян Ольбрахт, на элекцыйным з'ездзе польскай шляхты ў Пётркаве 3 кастрычніка новым каралём быў абраны вялікі князь літоўскі Аляксандр. Каранацыя караля адбылася 12 снежня 1501 года ў Вавелі. Каралевай польскай стала і Алена Іванаўна. Ды з адным "але"… Вышэйшае польскае духавенства ўвесь час настойвала на тым, каб Алена прыняла каталіцтва. Яна не згаджалася, не патрабаваў гэтага і муж. На гэтай аснове яе афіцыйна не каранавалі. Але гэта не замінала Алене годна выконваць свае абавязкі каралевы. Так і была на вышэйшым пасадзе ў каталіцкай краіне праваслаўная каралева Алена маскоўскага паходжання. Яна і ў дзяржаўных справах праявіла сябе своеасаблівым дыпламатам, намагалася лагодзіць інтарэсы праваслаўных Масквы і католікаў Вільні, нейтралізаваць канфлікты паміж Маскоўскім княствам і ВКЛ.

А для Масковіі і Княства пачатак XVI стагоддзя стаў занадта жалобным. У 1503 годзе Іван III моцна захварэў. Мо адной з прычын стала тое, што ў красавіку 1503 года ў іншы свет перайшла маці Алены і жонка Івана III Соф'я Палеалог. 27 кастрычніка 1505 года Іван III Васільевіч, які знаходзіўся на пасадзе вялікага князя маскоўскага 44 гады, памёр. Вялікакняскі пасад перайшоў да ягонага сына і брата Алены Васіля III Іванавіча, які быў жанаты з княгіняй Аленай Глінскай.

У ліпені 1505 года здароўе Аляксандра Ягелончыка рэзка пагоршала. У жніўні памерла ягоная маці Эльжбета з Габсбургаў. А 19 жніўня 1506 года на 45-м годзе жыцця пакінуў гэты свет сам Аляксандр. За сем дзён да свайго сыходу ён паспеў выслухаць данясенне Міхаіла Глінскага, якога моцна падтрымліваў, прыслухоўваўся да яго парад, аб перамозе над татармі пад Клецкам. Дзяцей у Аляксандра не было. Пахавалі караля польскага і вялікага князя літоўскага ў Віленскай катэдры, побач з братам – святым Казімірам. Гэта быў адзіны выпадак, калі кароль польскі знайшоў спачын у Вільні. Пасля смерці Аляксандра ў Кракаве і Вільні панавала пэўная разгубленасць: не было спакойна на мяжы з Масковіяй, не давалі перадыху крымскія татары.

Усё гэта падштурхнула вялікага князя маскоўскага Васіля III да нязвыклай задумы. Ён накіраваў пасланне сваёй сястры Алене, у якім прасіў яе хадайніцтва перад польскай шляхтай. Васіль прапанаваў сябе на караля польскага. Але пакуль круцілася бюракратычнае кола, аказалася позна. 10 верасня ў Вільню з Сілезіі прыехаў Аляксандраў брат Жыгімонт Ягелончык. 13 верасня 1506 года ён быў абраны вялікім князем літоўскім.

Пасля смерці Аляксандра Алена адышла ад актыўнай палітычнай дзейнасці. Ёй не заставалася нічога іншага, як адзінока праводзіць свае дні ў Трокскім замку. Кажуць, мела намер пераехаць у Маскву. Аднак 20 студзеня 1513 года 37-гадовая Алена памерла. І зноўку папаўзлі чуткі, што яе атруцілі ахвотнікі вялікіх дармовых багаццяў. Але ці так гэта на самай справе, дасведчанасці гісторыкаў не хапіла. Пахавана Алена ў Прачысценскім саборы Вільні.

*(Працяг будзе.)*

ГІСТОРЫЯ БЕЗ РЭТУШЫ

# Бясслаўная перамога

*У Віктара Суворава, таго самага Суворава, які першы паказаў, што Сталін рыхтаваўся да нападу на Германію, але Гітлер яго апярэдзіў, можна прачытаць, што ў вялікай перамогі агіднае і бруднае мінулае.*
*Ад сябе дадам: чым агіднейшае і бруднейшае ў перамогі мінулае, тым больш пра яе стараюцца маўчаць пераможцы.*
*Вось скажыце, чаму ні ў Расіі, ні ў Беларусі, ні ў Злучаных Штатах Амерыкі не дзьмуць у фанфары, не б'юць ва ўсе літаўры з нагоды 75-годдзя з дня перамогі саюзных дзяржаў над Японіяй?*
*Чаму не ладзіцца парад на Краснай плошчы? Не перашкодзіў жа каранавірус адзначыць 75-годдзе перамогі над Германіяй…*

## Хто дапамог заключыць Пакт трох дзяржаў?

Гісторыя не чорна-белая. Іншы раз ахвяры агрэсіі самі штурхалі агрэсара ўчыніць на іх напад. Так было ў Еўропе. Пасля Першай сусветнай вайны і ўстанаўлення рэспубліканскага ладу самай дэмакратычнай краінай у Еўропе была Германія, але краіны-пераможцы, і перш за ўсё Францыя, вялі такую палітыку ў дачыненні да пераможанай Германіі, што падрыхтавалі глебу для пераходу ўлады ў гэтай краіне ў рукі рэваншыстаў. І гітлераўская Германія жорстка адпомсціла Францыі.

Калі ў Еўропе дзяржавы-пераможцы з былога ворага стварылі яшчэ раз ворага, то на Далёкім Усходзе і Ціхім акіяне яны зрабілі ворагам свайго саюзніка.

У Першую сусветную вайну саюзніцай Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі і Злучаных Штатаў Амерыкі была Японія. Але еўраатлантычныя краіны ніяк не маглі прызнаць, што Японія – таксама вялікая дзяржава, іх раўнапраўны партнёр. Еўрапейскія краіны і ЗША хварэлі на расізм. І калі стваралася Ліга Нацый (1919 год), яны праігнаравалі прапанову Японіі ўключыць у статут гэтай арганізацыі пункт супраць расізму. Гэта не магло не абразіць японцаў.

Потым (1921–1922 гады) была Вашынгтонская канферэнцыя, якая абмяркоўвала пытанні аб марскіх узбраеннях і парадку на Далёкім Усходзе і Ціхім акіяне. ЗША, якія захапілі Гаваі, Філіпіны і драбнейшыя астравы, хацелі ўмацавацца ў Кітаі. Дбаючы пра свае інтарэсы, яны дамагліся скасавання брытанска-японскага саюза. Акрамя таго, былі абмежаваны марскія ўзбраенні. Калі, напрыклад, ЗША будавалі карабель водазмяшчэннем 50 тысяч тон, то Японіі можна было будаваць карабель на 30 тысяч тон.

Японцаў не магло не абураць таксама стаўленне амерыканскіх расістаў да іх суродзічаў, якія з розных прычын паехалі па вайне ў саюзныя Злучаныя Штаты. Такім чынам, былыя саюзнікі расісцкай і імперыялістычнай палітыкай ператваралі Японію ў праціўніка. І таму не дзіва, што Японія стала саюзніцай Германіі ды яшчэ адной пакрыўджанай краіны – Італіі.

Ваенна-палітычны саюз трох дзяржаў быў аформлены Берлінскім пактам 27 верасня 1940 года. Быў у гэтага пакта яшчэ адзін "бацька" – Савецкі Саюз.

Заключыўшы 23 жніўня 1939 года пакт аб ненападзе з Германіяй, кіраўніцтва СССР сакрэтны пратакол да яго зразумела так: раз немцы прызналі Латвію, Літву, Фінляндыю ды Эстонію савецкай сферай уплыву, то чаму б гэтыя краіны не захапіць? І СССР напаў на Фінляндыю, потым, калі Германія была занята ваеннымі аперацыямі на Захадзе, захапіў балтыйскія краіны, адарваў ад Румыніі Бесарабію. Вось гэтага Германія цярпець не магла, бо тысячы немцаў вымушаны былі з Латвіі і Эстоніі перабрацца ў Германію, бо савецкае войска стала на мяжы з Прусіяй, СССР наблізіўся да румынскіх радовішчаў нафты, якія актыўна выкарыстоўвала Германія.

Не магла спакойна пачувацца і Японія разам з залежнай ад яе дзяржавай Манчжоў-го. Відавочна, што хутка давядзецца перапісваць гісторыю савецка-японскіх сутыкненняў каля возера Хасан (1938 год) і ракі Халхін-Гол (1939-ы). Ужо і некаторыя расійскія гісторыкі лічаць, што канфлікты былі справакаваны не Японіяй, як пішуць у падручніках, а Савецкім Саюзам.

## Хто пачаў вайну паміж Японіяй і ЗША?

І ўсё ж у 1940-м самай вялікай пагрозай для Японіі быў не Савецкі Саюз, які рыхтаваўся да вайны з Германіяй, а Злучаныя Штаты Амерыкі.

Абражаная сваімі ўчарашнімі саюзнікамі, маладая японская нацыя не магла змірыцца з тым, што яе хочуць адсунуць на другі, а то і трэці план у сусветнай палітыцы. Сваю веліч у той час дзяржава сцвярджала не толькі эканамічнай і ваеннай магутнасцю – вялікай лічылася дзяржава, якая мела таксама разлеглыя каланіяльныя ўладанні.

Японія валодала Карэяй, Паўднёвым Сахалінам, Тайванем, Курыльскімі астравамі і былымі германскімі ўладаннямі на Ціхім акіяне. Але гэтага ёй было мала.

Пэўна, памятаючы, як у XIX стагоддзі ЗША абвясцілі, што ўся Амерыка павінна належаць амерыканцам, Японія кіравалася дактрынай, што Азія, прынамсі Усходняя і Паўднёва-Усходняя, павінна належаць азіятам.

У 1931 годзе імператарская армія высадзілася ў Маньчжурыі, якая толькі ўмоўна была часткай Кітая. Пад эгідай Японіі была створана дзяржава на чале з апошнім кітайскім імператарам з маньчжурскай дынастыі.

Дзеянні Японіі ў Маньчжурыі вялі да канфлікту з Кітайскай Рэспублікай. І ў 1937 годзе пачалася япона-кітайская вайна, якая вялася восем гадоў і спынілася толькі 2 верасня 1945-га. Зразумела, што ЗША не жадалі ператварэння Кітая ў японскую калонію ці васальную дзяржаву. І амерыкана-японскі канфлікт пачаў абвастрацца.

Вайну можна весці і без узброеных сутыкненняў. Дык вось, Злучаныя Штаты першыя абвясцілі вайну Японіі, пачаўшы адну за адной уводзіць гандлёвыя санкцыі і дапамагаць Кітаю.

Вядома, што японская эканоміка залежыць ад імпарту сыравіны і паўфабрыкатаў, а таксама энерганосьбітаў. Было забаронена экспартаваць у Японію самалёты, матэрыялы, патрэбныя для авіяпрамысловасці, жалеза, сталёвы лом, станкі, авіябензін. І нарэшце Кангрэс прыняў закон аб кантролі над экспартам. Амерыканскім і неамерыканскім кампаніям забаранілі прадаваць Японіі нафту. А кантроль над выкананнем гэтага закона ўсклалі на ваенна-марскі флот.

## Японія абараняе свае інтарэсы

Дзеянне амерыканскага закона аб кантролі над экспартам рабіла непазбежным узброены канфлікт паміж Японіяй і ЗША з Брытаніяй, якая падтрымлівала Штаты. Каб не спыніліся заводы і фабрыкі, японцам належала прабіць дарогу ў брытанскія і нідэрландскія ўладанні (сучасныя Малайзія і Інданезія) да радовішчаў нафты. А без захопу французскага Індакітая і брытанскай Бірмы нельга было спыніць амерыканскія пастаўкі зброі Кітаю.

Яшчэ ў 1933 годзе, калі Ліга Нацый выступіла на баку Кітая, Японія пакінула гэту арганізацыю. Быў узяты курс на нарошчванне ўзбраенняў.

Забягаючы наперад, скажу, што японскі ўрад мала надаў увагі ўзбраенню сухапутных сіл (магчыма, таму, што азіяцкія праціўнікі Японіі былі слабейшыя). У Японіі было вельмі слаба з танкамі. Не мелася аўтаматычнай стралковай зброі. Праўда, тыя, хто ваяваў з японцамі, адзначалі, што яны вельмі трапна стралялі з вінтовак.

Што ж тычыцца флоту, то Японія была адной з трох краін, якія мелі да Другой сусветнай вайны авіяносцы. У ЗША было сем такіх караблёў, пяць з іх у 1942-м патапілі японцы. Вялікабрытанія таксама мела сем авіяносцаў; адзін з іх патапілі японцы, а чатыры – немцы. Што тычыцца Японіі, то тры яе авіяносцы патапілі праціўнікі, а яшчэ тры (падбітыя праціўнікамі) патапілі самі японцы.

Аб тым, што ўзровень японскага караблебудавання быў высокі, сведчаць лінейныя караблі класа "Ямато" і лінейныя крэйсеры тыпу "Конга", а таксама падводныя авіяносцы (іх было тры тыпы; адзін з іх мог несці тры гідрасамалёты). Авіяпрамысловасць таксама была на ўзроўні. Спецыялісты высока ацэньвалі, напрыклад, японскія знішчальнікі класа "Зэро".

Такім чынам, Японія была някепска падрыхтавана да вайны з ЗША на моры і ў паветры. Праўда, былі ў Японіі і прыхільнікі дыялогу. Супраць вайны выступаў, бадай, самы таленавіты военачальнік таго часу Ямамота Ісароку. Але і ён мусіў выконваць прысягу, калі было прынята рашэнне аб вайне. Гэта пад яго кіраўніцтвам быў распрацаваны план нападу на амерыканскую марскую базу Пёрл-Харбар на Гаваях (7 снежня 1941 года). Гэтая аперацыя прывяла да таго, што Японіі давялося амаль чатыры гады ваяваць са Злучанымі Штатамі, Вялікабрытаніяй, Аўстраліяй, Канадай, Мексікай, Новай Зеландыяй ды іншымі краінамі. І працягваць вайну з Кітаем.

Узяўшы курс на узброеную абарону сваіх інтарэсаў ад ЗША, Японія 13 красавіка 1941 года тэрмінам на 5 гадоў заключыла з Савецкім Саюзам пакт аб нейтралітэце. Дзякуючы гэтаму пакту, СССР пазбег удару з усходу ў час вайны з Германіяй, а Японія змагла засяродзіць свае лепшыя сілы на іншых напрамках.

## Вінаватыя і невінаватыя

Калі пішуць пра Другую сусветную вайну, то звяртаюць увагу на зверствы японскіх акупантаў. Як прыклады называюцца разня ў Нанкіне (паўднёвая сталіца Кітая), выпрабаванні хімічнай і бактэрыялагічнай зброі, медыцынскія доследы на людзях. І сексуальная эксплуатацыя жанчын на так званых станцыях уцех.

Японцы і самі прызнаюць учыненыя імі злачынствы і не адзін раз прасілі за гэта прабачэння.

На шчасце, кітайцы і карэйцы не бралі ўдзелу ў баявых аперацыях на Японскім архіпелагу. Таму яны паўстаюць толькі як ахвяры. Але ахвяры і японцы.

Трэба разумець вывучку японскіх матросаў і салдат. У слоўнікі, бадай, усіх моў увайшло японскае слова "камікадзэ". Камікадзэ – гэта беспрэцэдэнтны прыклад масавага гераізму і самаахвярнасці ў імя імператара і айчыны. Да гэтага дадамо, што японскія салдаты не здаваліся ў палон. У палон траплялі, як правіла, параненыя і хворыя, а таксама тыя, хто атрымаў загад свайго камандавання падняць рукі ўгору. І нават камандзіраў не заўсёды слухаліся салдаты і афіцэры. Не адзін з іх учыніў самагубства.

У лютым 1945 года амерыканцы пачалі баі за Банінскія астравы і астравы Рукю. Ужо ў бітве за малы востраў Івадзіма, якая працягвалася больш за месяц, амерыканцы ўбачылі, што на тэрыторыі Японіі ваяваць давядзецца за кожны дом, што супраціўленне будзе лютае. І тады амерыканцы ўжылі тактыку выпаленай зямлі. У ноч на 10 сакавіка яны скінулі запальныя бомбы на Токіа. А трэба ведаць, што горад у той час быў пераважна драўляны. Загінула не менш за 80 тысяч жыхароў (некаторыя лічаць, што больш за 100 тысяч). І такі налёт быў не адзін. Усяго амерыканцы бамбілі 67 японскіх гарадоў. У выніку гэтых акцый загінула не менш за 500 тысяч чалавек (пераважна жанчын, дзяцей і старых), а 5 мільёнаў засталіся без жылля.

І ўсё ж дух імператарскай арміі не быў зламаны. У бітве за востраў Акінава Японія страціла больш за 100 тысяч салдат, саюзнікі – ЗША, Вялікабрытанія, Аўстралія, Канада і Новая Зеландыя – больш за 38 тысяч. Загінула палавіна цывільнага насельніцтва вострава, было разбурана 90 працэнтаў будынкаў. Мелі месца масавыя самагубствы. Саюзнікі атрымалі базу для ваенных дзеянняў на астравах Кюсю, Сікоку і Хансю, але яшчэ раз пераканаліся, што іх аперацыі на гэтых астравах прывядуць да велізарных страт. Каб іх пазбегнуць, у Вашынгтоне было вырашана выкарыстаць атамныя бомбы. І гэтыя бомбы былі скінуты на Хірасіму і Нагасакі 6 і 9 жніўня 1945 года.

*Заканчэнне на 8-й стар.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
22 ВЕРАСНЯ 2020 г.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Аляксандр АПЕЙКІН: «Мне часам казалі: «Ты заснаваў апазіцыйную каманду»

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пагутарыў з заснавальнікам гандбольнага клуба "Віцязь" і каардынатарам Беларускага фонду спартыўнай салідарнасці, які пасля прэзідэнцкіх выбараў быў вымушаны з'ехаць за мяжу.*

– Фактычна я і пачаў збіраць подпісы спартсменаў, якія выступілі супраць гвалту і незаконнай улады, – *кажа **Аляксандр АПЕЙКІН***. – Безумоўна, спрабаваў не "свяціць" сваё прозвішча, але і схаваць гэта было складана.

У адзін дзень патэлефанаваў добры знаёмы і папярэдзіў, што мяне могуць у бліжэйшы час затрымаць. Маўляў, дадзены загад са мной разабрацца. Таксама параіў не рызыкаваць і з'ехаць з краіны.

І зараз я бачу, што паступіў правільна, бо цяпер у Беларусі пачалося самае сапраўднае паляванне на ўсіх, хто не падтрымлівае ўладу, найбольш актыўных кідаюць у турму. Нават спартыўных журналістаў, як Сяргея Шчурко, адправілі на "суткі" на Акрэсціна.

Таму і вырашыў з'ехаць за мяжу, каб спакойна працягваць працэс падтрымкі спартсменаў. Лепш аказваць дапамогу людзям, якія цярпяць за сваю грамадзянскую пазіцыю, чым сядзець за кратамі.

**– Вы застаяцеся дырэктарам гандбольнага клуба?**

– Я зараз маю статус заснавальніка, але функцыі кіраўніка выконвае іншы чалавек. Зняў з сябе гэтыя паўнамоцтвы, таму што не магу паўнавартасна кіраваць клубам.

Акрамя таго, не хочацца, каб былі нейкія пытанні да людзей, якія не маюць ніякага дачынення да ўсёй маёй дзейнасці.

**– Наколькі складана было прыняць рашэнне аб ад'ездзе за мяжу?**

– Калі ты выбіраеш паміж воляй і нявoляй, то мой выбар відавочны і лагічны. Лепш з'ехаць і працаваць, чым чакаць, калі за табой прыйдуць. Разумеў таксама, што маглі забраць у СІЗА і затым прыпісаць усё што заўгодна. Але ў мяне была магчымасць пакінуць краіну, і я ёй скарыстаўся.

**– Раіліся з камандай наконт свайго рашэння?**

– Не, бо на гэта нават часу не было, усё адбывалася даволі хутка. Калі з розных крыніц пайшлі сігналы пра небяспеку, то рашэнне давялося прымаць умомант. У мяне было літаральна некалькі гадзін, каб сабрацца.

Спадзяюся, я з'ехаў усяго толькі на нейкі час і хутка змагу вярнуцца дадому, каб нармальна жыць у нармальнай Беларусі. Мне падаецца, што сітуацыя ў краіне зменіцца, таму пакуль няма адчування, што з'ехаў назаўжды. У мяне такое ўражанне, што пераехаў у суседні дом, бо ўсё кола знаёмстваў, парадак дня фактычна засталіся такімі ж, як і тады, калі быў у Мінску. Я проста тэрытарыяльна аказаўся ў бяспечнай зоне.

**– Пасля выбараў ваш клуб таксама выступіў з заявай, у якой асудзіў гвалт і фальсіфікацыі. Наступстваў не было?**

– Найперш з прэтэнзіямі патэлефанаваў кіраўнік Федэрацыі гандбола Уладзімір Канаплёў. Але я разумеў, якога гатунку гэтыя людзі, таму і аналізаваць не было чаго. Гэтыя людзі ўпэўнены: калі ты не галасуеш за Лукашэнку, то гэта здрада.

Здрада каму? Здрада чаго? Гэта зусім невытлумачальныя паняцці, якія ёсць у галовах асобных людзей. Яны не могуць і не хочуць разумець, што ёсць Канстытуцыя і ёсць заканадаўства. Ёсць грамадства і альтэрнатыўнае меркаванне. Яны мяркуюць, што ёсць толькі адзін правадыр і, што б ён ні рабіў, яго ўсё роўна ўсе павінны падтрымліваць.



Фактычна на гэта Канаплёў і ціснуў. Выказваў мне нейкія эмацыйныя прэтэнзіі, хаця я да гутаркі быў ужо падрыхтаваны і задаваў яму цалкам аргументаваныя пытанні. Калі выбары не сфальсіфікаваны, то чаму ва ўлад такі страх перад грамадствам? Чаму збівалі людзей?

**– І што адказаў Канаплёў?**

– Адказы былі прыкладна такія: а ты бачыў фальсіфікацыі? Сам бачыў, што збівалі? З такім поспехам у мяне можна было спытаць: а ты сам бачыў, што забілі Кенэдзі? Можа, я і не бачыў, але ж ёсць вялізная колькасць рэальных сведак.

Хаця Канаплёву, відаць, было нецікава пачуць, што будучыню краіны павінны вырашаць не людзі з пенсіённага фонду, а самі беларусы. І, ведаеце, я нават не крыўдую на Канаплёва. Мне абсалютна зразумела, што ён адстойвае і што баіцца згубіць. Але я веру, што іх час ужо адыходзіць. Хаця і чапляюцца за ўладу пасінелымі пальцамі.

Праўда, у дачыненні да "Віцязя" ніякіх рэпрэсій не было. Нават калі праводзілі акцыю салідарнасці падчас матча з БГК імя Мяшкова (пасля стартавага свістка каля хвіліны абедзве каманды не гулялі), усё закончылася толькі тым, што ў спартыўную залу выклікалі АМАП.

**– А АМАП навошта?**

– Не ведаю, магчыма, чакалі нейкіх правакацый, але натуральна, што такія дзеянні былі залішнія. Гэта напалохала і ігракоў, і балельшчыкаў.

Я назваў бы гэта рэакцыяй няўпэўненых людзей. Чалавеку, які сапраўды ўпэўнены ў сваёй перамозе і сваіх паўнамоцтвах, не патрэбна выклікаць АМАП. Калі ты сапраўдны лідар, то зможаш пагутарыць з людзьмі і без дубінак. А калі баішся слухаць гэтую аўдыторыю, бо ў цябе няма ніякіх аргументаў, то тады проста бароніш сябе з дапамогай сілавых метадаў.

**– Уся каманда выступіла адзіным фронтам?**

– Так, у нас сабраўся калектыў аднадумцаў. І, як мне падаецца, кожны нармальны чалавек, які здольны прааналізаваць сітуацыю пасля выбараў, можа сказаць, што сёння адбываецца ў краіне. Адбыліся злачынствы, і мяне здзіўляе, калі знаходзяцца людзі, якія кажуць: нічога страшнага не адбылося, мы не можам нешта змяніць… Мне падаецца, што ў такіх людзей ёсць маральныя праблемы.

Дарэчы, мне часам казалі так: "Ты заснаваў нейкую апазіцыйную каманду". І я адказваў: "Мы – не апзіцыйныя, а нармальныя. Гэта ў вас з вашым светапоглядам і мараллю праблемы". Калі ты выказаў сваю пазіцыю, то гэта апазіцыйнасць?

**– Калегі з іншых каманд вас не падтрымалі?**

– Па сутнасці, усе ставяцца да нас з разуменнем, але ў людзей ёсць страх. Яны баяцца страціць працу, кантракты. Не магу пра ўсіх казаць, але ведаю дакладна, колькі людзей з беларускага гандбола падтрымліваюць і агульнаграмадскую пазіцыю, і наш клуб.

Але хочацца, каб спартсмены і публічна выказвалі свае думкі. Гэта вельмі важна для грамадскасці і для спартсменаў, якія ўжо выказаліся. Больш за 500 спартсменаў падпісалі ліст супраць гвалту і беззаконня, і можна палічыць, колькі там дзеючых гандбалістаў. Не так шмат.

Дарэчы, у асноўным подпісы ставілі дзяўчаты з нацыянальнай зборнай. А вось з мужчынскай зборнай наогул няма нікога. І ад гэтага трохі сумна. Бо што, напрыклад, чыноўнік можа зрабіць чалавеку, які гуляе ў замежным клубе? Нічога. Таму хтосьці страчвае свабоду, а хтосьці баіцца пасварыцца з кіраўніком федэрацыі.

Хаця я бачу, што, як правіла, маўчаць тыя, хто вялікіх вышынь у спорце не дасягнуў. Яны разумеюць, што, калі згубяць працу, то ім будзе складана знайсці сябе ў гэтым жыцці. Многія ў душы падтрымліваюць цябе, але гучна пра гэта не заяўляюць.

**– Чым вы займаецеся за мяжой?**

– Я – каардынатар Фонду спартыўнай салідарнасці, таму ўвесь час прысвячаю менавіта гэтаму. Збіраем дапамогу для прадстаўнікоў спартыўнай галіны, якія страцілі працу альбо патрапілі пад рэпрэсіі. Такіх ужо назбіралася каля 30 чалавек.

Дапамагае спартыўная супольнасць са ўсяго свету, праводзім аўкцыёны, на якіх спартсмены выстаўляюць свае лоты. Усе грошы ідуць у фонд на падтрымку рэпрэсаваных спартсменаў і трэнераў.

Фактычна стварылі спартыўны прафсаюз, які павінен быў з'явіцца ў Беларусі ўжо даўно. Таму ва ўсім дрэнным можна знайсці і нешта станоўчае. Зараз адбыўся штуршок да стварэння супольнасцяў. І адна з іх – спартыўная. Мы ўбачылі кансалідацыю людзей, якія раней ведалі адзін аднаго толькі візуальна. Пайшоў абмен меркаваннямі, абмен дзеяннямі, людзі аб'ядналіся вакол адзінай ідэі. І шмат хто з іх досыць вядомы ў свеце.

**– Які выпадак ціску на спартсменаў ці трэнераў вас найбольш абурыў?**

– Гісторыя з Андрэем Краўчанкам, калі сярэбранага прызёра Алімпіяды па сутнасці вымусілі звольніцца. Не вельмі прыемная сітуацыя з плыўчыхай Аляксандрай Герасіменяй, калі на розных падставах ёй адмаўляюць у арэндзе басейнаў у школах для трэніровак дзяцей. Пад рэпрэсіі спартыўных чыноўнікаў патрапіла і трыятланістка Валянціна Зелянкевіч.

Мяркую, нікога не пакінула раўнадушным сітуацыя з пазбаўленнем прэзідэнцкай стыпендыі галоўнага трэнера зборнай Беларусі па фрыстайле Мікалая Казекі, які раней крытыкаваў дзеянні ўлад.

Шмат выпадкаў, калі не працягваюць кантракт, ціснуць, пагражаюць, што створаць невыносныя ўмовы для трэніровак.

А гісторыя са спартыўным журналістам Сяргеем Шчурко, якога адправілі на 15 сутак за актыўную грамадзянскую і журналісцкую пазіцыю, – гэта ўвогуле абсурд! Не выключана, што пасадзілі за рэзананснае інтэрв'ю з біятланісткай Надзеяй Скардзіна. Яна таксама выказала ўсё, што думае пра гэтую ўладу.

**– На ваш погляд, чым закончыцца сённяшняе супрацьстаянне ў краіне?**

– Мы бачым, што частка грамадства праз гвалт і рэпрэсіі бароніць сваю ўладу, але не думаю, што гэта можа доўга працягвацца. Немагчыма кіраваць краінай, калі няма нацыянальнай згоды. Можа быць, сітуацыя зменіцца не так хутка, як мы жадаем, але яна ўсё роўна зменіцца.

**– Калі збіраецеся вярнуцца дадому?**

– Дакладна не ведаю, але вярнуся абавязкова. Тут мой дом, тут мой клуб…

**Алесь СІВЫ.**

КУМИРЫ

# Муза Высоцкого Марина Влади сегодня: как живет и как выглядит

*Несмотря на то, что у Владимира Высоцкого была жена в СССР, он часто летал во Францию, чтобы увидеться с возлюбленной и музой всей его жизни Мариной Влади.*

Высоцкого французская актриса и модель вдохновляла на написание песен, он до последнего вздоха любил эту женщину. А как сложилась ее жизни после Высоцкого?

Марина всегда хотела стать актрисой, и ее мечта стала реальностью в совсем юном возрасте: дебют в кино состоялся, когда ей было 11 лет. С тех пор она уже не оставляла любимое занятие и всю жизнь посвятила творчеству и съемкам.

После того как Марина сыграла в фильме «Колдунья», она стала известной не только в Европе, но и в СССР. На тот момент девушке было всего 16 лет. Именно в этом фильме Высоцкий увидел свою будущую возлюбленную и музу. Но встретиться они смогли только тогда, когда Марину в 1967 году пригласили выступать в Театре на Таганке.

Высоцкий начал встречаться с актрисой. Он посвящал ей многие песни, во время первой встречи познакомил со своими друзьями. В январе 1970 года пара оформила брак. Молодожены отправились на теплоходе в Грузию в свадебное путешествие…



А потом Марина уехала в Париж, Владимир остался в Москве. Только через шесть лет ему дали разрешение на выезд во Францию. Пара стала наверстывать упущенное: путешествовать по миру, гуляли по Москве, Марина устраивала концерты Высоцкого в Париже…

В 1980 году Высоцкого не стало. Влади еле пережила этот удар, долго пребывала в депрессии. Но все же смогла оправиться и даже вернуться в кино.



Как-то режиссер Тарковский познакомил актрису с известным в Париже врачом-онкологом Леоном Шварценбергом. Леон лечил маму и сестру Марины, а после смерти Высоцкого поддерживал ее и помогал выйти из депрессии. После развода Шварценберга Влади приютила друга в своем доме. Леон стал четвертым мужем Марины.

Пара прожила вместе чуть больше 20 лет. Леон болел и очень тяжело уходил из жизни. Марина самозабвенно ухаживала за ним. Когда в 2003 году Шварценберг умер, она потеряла смысл жизни, впала в депрессию и начала употреблять алкоголь. На протяжении двух лет Влади страдала алкогольной зависимостью. Помощь друзей (в том числе ее первого мужа – знаменитого французского актера Робера Оссейна) помогла ей одолеть пагубную привычку. Влади отошла от съемок, начала писать книги и преуспела в этом. Большой успех имели ее мемуары, в которых рассказывалась и история ее отношений с Высоцким. В 2019 году по книге Марины о Высоцком в России было поставлено несколько спектаклей.

В 2018 году Марина отпраздновала 80 лет. Сегодня уже 82-летняя женщина поддерживает свое здоровье ежедневными занятиями спортом. Она живет достаточно уединенно, общается только с самыми близкими друзьями и родственниками.

В России до сегодняшнего дня роман Влади и Высоцкого считается примером высокой и преданной любви, которую влюбленные смогли сохранить, несмотря на границы и расстояния.

*(Из открытых источников.)*

ГІСТОРЫЯ БЕЗ РЭТУШЫ

# Бясслаўная перамога

*Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.*

Толькі ў дні выбухаў ў Хірасіме загінула больш за 200 тысяч, а ў Нагасакі – больш за 75 тысяч чалавек. І гэта зноў жа былі пераважна жанчыны, дзеці і старыя.

Ці можна пасля гэтага гаварыць аб слаўнай ці вялікай перамозе Злучаных Штатаў ды іх саюзнікаў?

## Маскоўскія ўрвіцелі

Як мы памятаем, ЗША не жадалі ўмацавання Японіі ў Кітаі і таму актам аб кантролі над экспартам справакавалі вайну. Гісторыя пасмяялася з Амерыкі: у выніку яе дзеянняў у Кітаі перамог камунізм.

А дапамог кітайскім (і карэйскім) камуністам амерыканскі саюзнік Савецкі Саюз.

Яшчэ ішла вайна з Германіяй, а Штаты і Вялікабрытанія ўгаворвалі Сталіна пачаць вайну з Японіяй. Сталін, як прадстаўнік краіны, што заключыла з Японіяй пакт аб нейтралітэце, мог стаць пасрэднікам паміж японцамі і амерыканцамі, але яму карцела ўрваць тое, што страціла царская Расія: Паўднёвы Сахалін і Курыльскія астравы. І ён паабяцаў праз два-тры месяцы пасля спынення ваенных дзеянняў у Еўропе напасці на Японію, якая ў цяжкі для Савецкага Саюза час цвёрда выконвала пакт аб нейтралітэце.

СССР напаў якраз тады, калі амерыканцы скінулі на Японію другую атамную бомбу і сыход вайны быў прадвырашаны.

Ці можна назваць слаўнай старонкай парушэнне пакта, паход савецкай арміі пасля двух атамных бомбаў і асабліва пасля таго, як імператар Сёва насуперак армейскай апазіцыі па радыё заклікаў армію і флот спыніць супраціўленне? Да таго ж на Квантунскім паўвостраве, куды рухалася Чырвоная армія, былі размешчаны не самыя баяздольныя часткі імператарскай арміі. І хоць саюзнікі раілі Сталіну пасля спынення баявых дзеянняў адправіць палонных на радзіму, ён адправіў іх у Савецкі Саюз.

У імперскім запале Масква захапіла і тыя астравы Курыльскай грады, якія ніколі не належалі Расіі: Ітуруп, Кунашыр, Шыкатан і граду Хабамаі. Быў у Сталіна яшчэ адзін план. 8 жніўня 1945 года, напярэдадні паходу супраць Японіі, маршал Аляксандр Васілеўскі выдаў загад аб акупацыі другога па велічыні японскага вострава Хакайда. Але тут ужо саюзнікі, перш за ўсё прэзідэнт Гары Трумэн, сказалі рашучае "не".

Калі для заходніх саюзнікаў перамога над Японіяй бясслаўная, то для СССР і цяперашняй Расіі яна быццам і не перамога. Хацеў СССР устанавіць сваю гегемонію ў Кітаі – не ўдалося; хацеў дыктаваць свае ўмовы ў Карэі – не удалося; захапіў тое, што ніколі Расіі не належала, – атрымаў праблему: мірнага дагавору з Японіяй як не было, так і няма. Вайна нібыта і не скончылася. Імператар Сёва мог паехаць у ЗША, у Вялікабрытанію, у іншыя краіны, з якімі Японія ваявала, а ў СССР і Расію ні ён, ні яго сын не прыязджалі. А каб прыехаў унук, цяперашні імператар Нарухіта, трэба вярнуць Японіі скрадзеныя астравы.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Падпісана ў друк 21.09.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 040 экз. Заказ № 2463w.